



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 жніўня 2015 года №33 (1059)


## Валожын: пацыентка напісала адмову ад шпіталізацыі

старонка 5

## Міхась Казлоўскі: "Я кроў ад крыві гэтага народа"

старонка 6

## Нарач: адпачыць з вожыкамі і зайцамі

старонка 20

## Колькі маладых медыкаў і якіх спецыяльнасцяў выйшла на працу

старонка 21


ЦАРСКОЕ ЗОЛОТО ювелирная сеть

**РАСПРОДАЖА серебряных изделий**

до 31 августа

**Скидка 50-60 %**



*Молодечно, ул. Притыцкого, 12*

Тел. **(8-0176) 77-41-97**

ЧТУП «БигПрайм». УНП 691511104

СКИДКИ!

enkins

WDS KBE SALAMANDER

**ОКНА ПВХ**

Не заглядывайся на чужие окна- ПОСТАВЬ СВОИ!

ЗА 3 ДНЯ!

www.eurostroyka.by

**РАССРОЧКА 0%**

(029)136-80-71 (033)637-87-83

ИП Григайтис И.В. УНП 691165717


# Вілейка: ці маем мы права перайначваць 150-гадовы храм

Чытайце на 2-й старонцы

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# 150-гадовай царкве плануюць прымацаваць падсобкі

ВІЛЕЙКА

**Планы зрабіць прыбудовы да вілейскай царквы разварушылі дыскусію, што важней: зручнасць, эстэтыка і цеплыня ці захаванне помніка 150-гадовай даўніны?**



Цяпер фасад вілейскай царквы Марыі Егіпецкай абнаўляюць фарбай. Злева – будынак прыходскага дома, спраектаваны Анатолем Капцюгом.

## Частка прыхаджан: гэта абраза

Прыхаджанка вілейскай царквы Марыі Егіпецкай і адначасова чытачка "РГ" звярнулася ў рэдакцыю з абурэннем. Паводле яе слоў, настаяцель паведаміў, што плануе зрабіць прыбудовы да царквы. Гэта ўзрушыла жанчыну:

– Разам з многімі іншымі прыхаджанамі мы проста ў шоку – як можна перабудоўваць помнік, якому 150 год?! Няўжо няможна вырашыць пытанне з ацяпленнем, не чапаючы сцены, якія ўтрая за вас старэйшыя? Гэта проста абраза гісторыі, культуры і духоўнасці!

## Бацюшка: бяспека і парадак

Сам настаяцель айцец **Аляксандр** запэўнівае ў тым, што не дапусціць самабуду:

– Рамонтныя работы ў храме ўжо ідуць. Але нічога не мяняецца, толькі абнаўляецца. Што тычыцца канструктыўных змяненняў, то сам храм ніяк не відазменіцца, акрамя як да алтарнай часткі будуць прыбудаваны два невялікія памяшканні гаспадарчага прызначэння: рызніца храма і памяшканне асобнага ўвахода.

**Калі царкву будавалі ў 19 стагоддзі, не было такіх строгіх супрацьпажарных правілаў, таму ў царкву адзін уваход.**

У адрозненне ад многіх іншых храмаў, таксама не прадугледзелі дадатковыя памяшканні. Раздзіманне кадзіла і іншыя падрыхтоўчыя справы трэба рабіць паза алтаром, а ў цяперашнім будынку такой магчымасці няма. У выканкаме мы атрымалі дазвол на праектна-вышукальныя работы. Далей будзем узгадняць у Міністэрстве культуры. Гэта ні ў якім выпадку не будзе самабуд, таму што гэта помнік. Падрыхтоўчая работа з дакументацыяй зойме цэлы год. Калі мы атрымаем усе дазволы, узгадненні, праект зацвердзіць епіскап, то пачнём будаваць. Плошча ніяк не зменіць выгляд: пабудовы будуць з тыльнага боку храма, яны не ўнясуць дысбаланс у храмавы комплекс.

## Выканкам: сітуацыя неадназначная

Вілейскі райвыканкам даў дазвол на распрацоўку праекта двух прыбудоў да царквы. Сітуацыю каментуе начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама **Галіна Кажарновіч**:

– Разглядаючы пытанне, я кансультавалася са спецыялістамі ў гэтай сферы, у тым ліку з рэстаўратарамі. Безумоўна, першапачатковы адказ за ўсіх – не. Аднак адназначна адмаўляць не ў маіх правілах, кожны выпадак трэба дасканала вывучаць, тым больш такое важнае пытанне. Будынак царквы – наша гісторыя. Але настаяцель паабяцаў вельмі скрупулёзна паставіцца да справы. І пэўная логіка ў яго прапанове ёсць. Тут два моманты. Папершае, можа быць не вельмі дарэчы, што пры цэнтральнай плошчы горада пабудова з пячным ацяпленнем. Па-другое, у перспектыве мы хацелі б зрабіць так, каб царквой можна было любавацца не толькі з галоўнага фасада, але і з бакавых, і з боку парку. А што цяпер відаць з таго боку – склад дроў і гаспадарчыя пабудовы? Але адназначна, што калі і рабіць прыбудовы, то толькі вытрымаўшы агульны стыль і прапорцыі, пад кіраўніцтвам навуковага кіраўніка праекта-рэстаўратара.

**Вілейскі райвыканкам даў дазвол толькі на тое, каб ішла распрацоўка праекта перабудовы. Сам праект вынесуць на грамадскае абмеркаванне, падчас якога кожны зможа выказаць сваё меркаванне па пытанні.**

Усе заўвагі пазначаюць у журнале. Дзяржаўная экспертыза праекта будзе яго дасканала вывучаць і вынесе станоўчае ці адмоўнае заключэнне па праекце.

## МНС: печ можна пакінуць

Наколькі востра стаіць пытанне пажарнай бяспекі, мы запыталіся ў МНС. Першага намесніка начальніка Вілейскага райаддзела надзвычайных сітуацый **Анатоля Стрэжа** хвалюе не толькі прасцейшы спосаб вырашыць пытанне, але і эстэтыка:

– Сама печ у царкве ў даволі някепскім стане. А вось металічны комін з пункту гледжання бяспекі лепш замяніць на цагляны. Але ўявіце, як бы цагляны глядзеўся з боку плошчы, абсалютна недарэчна выбіваўся б. Печ патрабуе пільнага нагляду. Таму прыбудаваная кацельня вельмі спросціць ацяпленне. Аднак ніхто пры гэтым не перашкаджае пакінуць печ некранутай як помнік, каб яна выконвала толькі гістарычную і дэкаратыўную функцыю.

## Краязнаўцы: змагаемся, каб царкву не чапалі

Самая актыўная ў рэгіёне суполка Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры не магла застацца ў баку ад праблемы перабудовы 150-гадовага помніка ў сваім раёне. Старшыня суполкі **Дзяніс Канецкі** адразу ж, як даведаўся пра планы перабудовы, абмеркаваў далейшыя дзеянні з кіраўніком таварыства **Антонам Астаповічам**.

На думку краязнаўцаў, уносіць змяненні ў помнік 150-гадовай даўніны недапушчальна.

Царква адпавядае ўсім крытэрыям гісторыка-культурнай каштоўнасці, мела статус помніка архітэктуры. Гэта зафіксавана ў Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі па Мінскай вобласці.

У 2007 годзе аб'ект страціў гэты статус падчас перагляду спіса. А ён забараніў бы перабудоўваць аб'ект, каб захаваць аўтэнтычнасць.

Менавіта гэтым і займаюцца краязнаўцы – рыхтуюць дакументы, каб на наступным тыдні падаць заяву на наданне статусу вілейскай царкве. Калі прапанова будзе прынятая Міністэрствам культуры, праз некаторы час яе разгледзіць навукова-метадычная рада, якая прыме рашэнне рэкамендаваць ці не рэкамендаваць уключаць царкву ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

З моманту рэгістрацыі прапановы аб'ект патрапіць пад ахову дзяржавы да разгляду на пасяджэнні рады. Калі яна прыме рашэнне, што царква не адпавядае крытэрыям гісторыка-культурнай каштоўнасці, перабудову зможа спыніць толькі добрая воля ініцыятараў будаўнічых работ.

## Архітэктар Капцюг: прыгажосць і зручнасць могуць знішчыць помнік

**Анатоль Капцюг** – аўтарытэтны архітэктар з Вілейшчыны. Менавіта ён зрабіў праект прыходскага дома, будынка злева ад царквы. І не разумее, чаму кацельню немагчыма зрабіць каля ці ўнутры яго.

– Царква пабудаваная з індывідуальнымі асаблівасцямі. Гэта не звычайная мураўёўка, хаця і яны сёння – помнікі.

**"Другой такой царквы, як вілейская, няма. Напрыклад, на вежы намаляваны гадзіннік, а не сапраўдны механізм. Дзе яшчэ такое вы бачылі? У цэлым гэта робіць царкву ўнікальным помнікам.**

Што тычыцца замены ацяплення – нашто было будаваць прыходскі дом, каб прыбудоўваць яшчэ нешта. Прадумаць, як падвесці ў царкву ацяпленне, не чапаючы 150-гадовыя сцены, магчыма. А што тычыцца таго, што царква з прыбудовамі будзе больш зручнай і прыгожай... Можа быць, але яна ўжо не будзе 150-гадовым помнікам.

**Даведка "РГ".** Вілейская царква Марыі Егіпецкай – помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю ў Вілейцы. Пабудаваная ў 1865 годзе з цэглы.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ЭКАНОМІКА

## Дзе ў рэгіёне на Міншчыне найвышэйшы заробак

Гэткія дадзеныя можна адшукаць у справаздачы Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Мінскай вобласці.

Паводле яе, намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата за паўгоддзе на Міншчыне складае амаль шэсць мільёнаў чатырыста тысяч рублёў.

Сярод раёнаў нашага рэгіёна лідзіруе Маладзечанскі – крыху больш за пяць мільёнаў шэсцьсот тысяч.

Потым з прыстойным адставаннем ідзе Валожынскі – амаль пяць мільёнаў дзвесце тысяч.

На Мядзельшчыне налічаны заробак склаў пяць мільёнаў 143 тысячы рублёў. І ўнізе з нашага рэгіёна – Вілейскі раён. Там налічаны заробак крыху перавысіў пяць мільёнаў 100 тысяч рублёў.

Найбольшы заробак у Мінскай вобласці – у Салігорскім раёне. Ён складае больш за дзевяць мільёнаў рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

ЦЭНТР ГІГІЕНЫ

## Забаранілі купацца ў Беразінскім

МАЛАДЗЕЧНА

Галоўны санітарны доктар раёна вынес прадпісанне аб забароне купання дзяцей на вадаёме пасёлка Беразінскае ад 8 жніўня.

Прычына – вада не адпавядае гігіенічным крытэрыям бяспекі па мікрабіялагічных паказчыках (знайшлі агульныя каліформныя бактэрыі).

Забарона будзе дзейнічаць да лабараторнага пацвярджэння адпаведнасці вады з вадаёма пасёлка Беразінскае гігіенічным нарматывам.

Камунальным службам загадалі ўсталяваць папераджальныя знакі.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

ЗДАРЭННІ

## Аўтапоезд наехаў на пешахода

МЯДЗЕЛ

На Мядзельшчыне 12 жніўня адбылося дарожна-транспартнае здарэнне са смяротным зыходам.

А палове першай ночы паблізу вёскі Камарова аўтапоезд наехаў на мясцовага жыхара, пенсіянера. Ён ад атрыманых траўмаў загінуў.

Кіраваў машынай 59-гадовы грамадзянін Расійскай Федэрацыі.

**Паводле МУС Беларусі.**

ХАРЧАВАННЕ

# “Мой сабака гэта не есць. Праверце”

ВІЛЕЙКА

**І з такімі просьбамі прыходзяць у Вілейскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.**

Віляйчанін хацеў праверыць якасць мяснога прадукту, які яго сабака адмаўляецца есці. “Чаму я павінны гэта есці?” – прыводзіў довад.

– Якасць прадукцыі гарантуе вытворца, а не цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, – тлумачыць доктар-гігіеніст **Алена Ліхачэўская**. – На кожную прадукцыю вытворца дае дакументы, якія сведчаць пра якасць і бяспеку. У іх прапісана, што прадукцыя прайшла лабараторныя даследаванні на ўсе паказчыкі, устаноўленыя патрабаваннямі заканадаўства, і з’яўляецца бяспечнай для здароўя чалавека.

Верагодна, віляйчанін хацеў даведацца, ці ёсць у прадукце соя ці не.

– Вытворца ўказвае на этыкетцы склад прадукту. За тым, па якой рэцэптуры і стандартах ідзе распрацоўка і вытворчасць прадукцыі, сочыць Дзяржстандарт. І там узгадняюць, ці можа прадпрыемства выпускаць такую прадукцыю ці не. А мы толькі можам пры ажыццяўленні нагляду правесці лабараторныя даследаванні. І то па асобных паказчыках – у залежнасці ад таго, на што акрэдытаваная лабараторыя: на таксічныя элементы, мікрабіялогію.

**Што ж рабіць чалавеку, які лічыць, што прадаюць няякасныя харчы? У цэнтры гігіены і эпідэміялогіі раяць найперш папрасіць у краме дакументы, якія сведчаць пра якасць і бяспеку тавару.**

– Калі ў чалавека прадукт выклікае сумненні, то ён можа пакінуць заўвагу ў Кнізе скаргаў і прапаноў у краме. Тады ўжо адміністрацыя крамы будзе працаваць з вытворцам. Вядома, крама паставіць у вядомасць і нас. Калі прадпрыемства, што выпускае гэты тавар, знаходзіцца на нашай тэрыторыі, пры правядзенні наглядных мерапрыемстваў ацэнім, як выконваюцца патрабаванні заканадаўства.

## “Даследуйце на нітраты”

Бывае і так: набыў чалавек кавун, з’еў частку, астатняе прыносіць у цэнтр – “даследуйце, ці ёсць нітраты”. Ці палову палкі кілбасы прынясе – хоча, каб праверылі.

Такую прадукцыю на даследаванне не возьмуць:

– Ёсць пэўныя дакументы, якія рэгламентуюць, як можна адбіраць пробы. У людзей такую прадукцыю браць не можам у адпаведнасці з гэтымі патрабаваннямі.

На нітраты лабараторыя можа праверыць прадукцыю, якую вырасцілі людзі на прысядзібным участку.



Насіць палову кавуна ў санстанцыю не варта. На здымку гандляры прадаюць кавуны на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.

Дарэчы, пры правядзенні планавых праверак кавуны ўжо даследавалі. Нестандартных проб пакуль не было.

– Таксама хачу падкрэсліць: калі падазраяце, што пэўны прадукт выклікае абвастрэнне ці з’яўленне нейкіх захворванняў – звярніцеся да доктара ў паліклініку ці бальніцу. Без падстаў не “абвінавачвайце” прадукт у хваробах, – кажа Алена Ліхачэўская.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Афіцыйна

Звароты грамадзян разглядаюцца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб звароце грамадзян і юрыдычных асоб” толькі па пытаннях, якія ўваходзяць у кампетэнцыю арганізацый. У нашым выпадку – санітарна-эпідэміялагічнай службы. А менавіта ў дачыненні да бясшкоднасці па нармаваных лабараторных паказчыках.

| Курсы валют НБ РБ | 6.08 | 13.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 565,00 | **15 989,00** |
| Еўра | 16 926,00 | **17 759,00** |
| Злоты | 4 098,27 | **4 137,42** |
| Расійскі рубель | 248,37 | **245,87** |
| Грыўня | 712,51 | **735,67** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 12.08** | | |
| Еўра | 16800/17020 | **17350/17900** |
| Долар ЗША | 15470/15600 | **15760/16100** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.08 | 12.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29400 | **28900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | - | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37300 | **37300** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 19000 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 37000 | **39500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8500 | **7900** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **3900** |
| Морква, 1 кг | 10000 | **7900** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 36900 | **34900** |
| Апельсіны, 1 кг | 23900 | **27500** |
| Мандарыны, 1 кг | 29900 | **28500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29500 | **27500** |
| Ківі, 1 кг | 36500 | **39500** |
| Нектарыны, 1 кг | 23900 | **24900** |
| Абрыкосы, 1 кг | 19900 | **24900** |
| Памідоры, 1 кг | 13500 | **11500** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **4900** |
| Перац, 1 кг | 10000 | **11900** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14900** |
| Кавун, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Дыня (“тарпеда”), 1кг | 11000 | **13000** |
| Яблыкі, 1 кг | 16500 | **-** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19900 | **22900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 5000 | **4000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

## Вілейскі дзяржаўны каледж працягвае прыём

**Хто сказаў, што вучыцца заўсёды сумна і нецікава? Толькі не ў выпадку Вілейскага дзяржаўнага каледжа.**

Дырэктар гэтай установы адукацыі **Ігар Кіцікаў** упэўнены, што правядзенне цікавых мерапрыемстваў, конкурсаў прафесійнага майстэрства здольнае павялічыць цікавасць да вучобы і падштурхнуць навучэнцаў да лепшага авалодання прафесіяй.

Дзейснасць гэтай методыкі навучання пацвярджаюць і навучэнцы. **Андрэй Аксючыц**, які авалодвае спецыяльнасцю “**электразваршчык, кіроўца катэгорыі С**”, будзе спрабаваць атрымаць вышэйшую адукацыю. Ён адзначае: “Думаю ведаў, якія атрымаў тут, хопіць, каб годна здаць тэставанне, – у каледжы выдатныя выкладчыкі. Тут стаў вучыцца значна лепш, чым у школе – больш цікава. Раней быў сярэдні бал атэстата 6,6, цяпер – 7,6”.

Крэатыўнасць і веданне прафесіі навучэнцы дэманструюць на традыцыйных святах – “Дранік ШОУ”, “Дзень Судака”, “Селядзец-шуба-АРТ”, “Сімфонія прыгажосці”, “Формула прыгажосці ў фармаце FM”, “Блінны дзень”. Гэтыя мерапрыемствы вядомыя далёка за межамі Вілейкі.

У каледжы створаны ўсе ўмовы для развіцця добрых і зацікаўленых у працы спецыялістаў: працуе ўласная станцыя тэхабслугоўвання, сучасная цырульня “Лада”, кафэ “Пары”, гатэль “Тры зоркі”.

Ігар Кіцікаў упэўнены, што навучэнцам трэба працаваць не толькі ў майстэрнях, а і ў кабінетах. “Рабочы павінны мець шырокі кругагляд, – адзначае дырэктар.

Працадаўцы не могуць узгадаць выпадкаў, калі не ўзялі на працу выпускнікоў Вілейскага дзяржаўнага каледжа. З іншымі ўстановамі адукацыі такія сітуацыі здараліся.



Навучэнцы, якія паступаюць на аснове агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі атрымліваюць стыпендыю. Тыя, хто паступае пасля агульнай базавай адукацыі, атрымліваюць аднаразовае бясплатнае харчаванне. Навучэнцам даецца інтэрнат.

Чакаем вас па адрасе:
*222416, Мінская вобласць, г. Вілейка, вул. Гагарына, д.4*
Сайт: **vilgk.by**
Тэл.: **(8-01771) 5-43-88, 5-69-96, 5-48-76.**

УНП 600178633

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УП «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ

✓ английский ✓ немецкий ✓ польский

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204



Часам у фільмах паказваюць, як падчас спрэчкі людзі могуць лінуць адзін аднаму ў твар вадой. На Валожыншчыне мужчына пайшоў далей – ён abліў сужытніцу гарачым булёнам.

Фота bolshoyvopros.ru

● ЗДАРЭННІ

# Мужчына падчас спрэчкі abліў гарачым булёнам сужытніцу

ВАЛОЖЫН

**У канцы жніўня будзе суд на мужчынам, які abліў гарачым булёнам сужытніцу.**

Здарэнне адбылося 30 мая ў вёсцы Таўканы на Валожыншчыне. 57-гадовы мужчына вечарам прыйшоў дамоў нападпітку. Яго 44-гадовая сужытніца, інвалід другой групы, на верандзе гатавала вячэру. Мужчыну нешта не спадабалася, пачаў скандаліць. Падчас спрэчкі схапіў з газавай пліты каструлю з гарачым булёнам і выліў на жанчыну. Яна атрымала апёкі.

Пасля гэтага спрабаваў аказаць медыцынскую дапамогу – перавязаў жанчыне руку бінтам.

На наступны дзень у госці завітаў брат гаспадара з жонкай. Яны ўбачылі апёкі на целе жанчыны і адвезлі яе ў бальніцу.

Медыцынскія работнікі паведамілі ў міліцыю пра гэты выпадак. Жанчына адмаўлялася пісаць заяву, але пракуратура узбудзіла крымінальную справу, пачала разбірацца. Цяпер мужчыну чакае суд.

Пра здарэнне расказала следчы Валожынскага раённага Следчага камітэта **Дар'я Мікуліч.**

**Галіна СІНІЦА.**

## Ехаў праз мяжу на счэпцы паміж вагонамі

АСТРАВЕЦ

10 жніўня ў пункце пропуску "Гудагай-1", на чыгуначнай станцыі "Гудагай", памежным нарадам на счэпцы паміж вагонамі пасажырскага цягніка №359 Адлер-Калінінград за спробу парушэння Дзяржаўнай мяжы з Рэспублікі Беларусь у Літоўскую Рэспубліку затрыманы грамадзянін Малдовы.

Як патлумачыў парушальнік памежнікам, ён накіроўваўся ў Вільню на пахаванне.

Цяпер праводзіцца разбіральніцтва. За наўмыснае незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, калі гэта дзеянне не цягне крымінальнай адказнасці, а таксама за замах на такое перасячэнне цягнуць папярэджанне з дэпартацыяй альбо накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да ста базавых велічынь з дэпартацыяй або без дэпартацыі.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай памежнай групы па рабоце са сродкамі масавай інфармацыі.**

● СЛУЖБА 101

## На Валожыншчыне згарэла 20 гектараў пшаніцы, у Маладзечне – паўгектара

ВАЛОЖЫН. МАЛАДЗЕЧНА

**У рэгіёне былі тры выпадкі, калі на палях загарэлася збажына.**

Паведамленне пра тое, што ў вёсцы Ластаянцы Вішнеўскага сельсавета Валожынскага раёна гарыць іржышча на полі паступіла ў Валожынскі РАНС 8 жніўня ў 14 гадзін 17 хвілін.

На месца здарэння прыехалі тры аўтацыстэрны Валожынскага РАНС, адна аўтацыстэрна Смаргонскага РАНС, дзве аўтацыстэрны Ашмянскага РАНС, тры трактары з бочкамі, чатыры трактары з плугамі арганізацый аграпрамысловага комплексу раёна.

У суботу гарэла азімая пшаніца на полі плошчай 100 гектараў. У выніку ўзгарання саломы пад маторным адсекам збожжаўборачнага камбайна адбылося загаранне ржышча. Агонь хутка распаўсюдзіўся на збожжа.

Выратавальнікі, што дзяжурылі ў полі, выратавалі камбайн. Але з-за моцнага ветру і анамальна гарачага надвор'я агонь распаўсюдзіўся па полі.

У выніку выгарала ржышча на плошчы 20 гектараў, знішчана 8 гектараў азімай пшаніцы на корані.

У выніку аператыўнага рэагавання байцы Валожынскага РАНС не дапусцілі распаўсюджанне агню на лясны масіў і найбліжэйшы населены пункт, выратавалі каля 20 гектараў азімай пшаніцы на корані.

Найбольш верагодная прычына ўзгарання – кароткае замыканне электраправодкі ў маторным адсеку збожжаўборачнага камбайна.

На Маладзечаншчыне былі два пажары. 8 жніўня каля вёскі Мойсічы загарэлася салома ў 12-метровым прычэпе МАЗа. Агонь знішчыў сем цюкоў. А ў нядзелю, 9 жніўня, у Маладзечне гарэла пшаніца на полі, якое побач з вуліцай Янкі Купалы. Пажар знішчыў паўгектара збажыны.

Папярэдняя прычына пажараў на Маладзечаншчыне – неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**Паводле Валожынскага і Маладзечанскага РАНС.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Маладзечанца абакралі на рыбалцы

МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА

Ранкам 2 жніўня давялося звяртацца ў міліцыю маладзечанцу і жыхару гарадскога пасёлка Гатава.

Яны расказалі, што з іх лодак на беразе возера Мястра скралі 10 вудачак, 30 воблераў і рыбалоўную сумку са снасцямі. Адбылося гэта паблізу вёскі Качаргі. Прычынілі рыбакам шкоду больш чым на 11 мільёнаў рублёў.

Злачынства ў гэты ж дзень раскрылі. Устанавілі, што скраў рэчы 42-гадовы ўраджэнец Мядзела. Раней ён быў неаднаразова судзімы за крадзеж.

Мужчына патлумачыў, што быў нападпітку. Убачыў, што людзі пакінулі рыштунак у лодцы, і прыхапіў. Штосьці паспеў раздаць знаёмым. Ужо знайшлі частку скрадзенага, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі.** Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Вілейшчыне ўдарылі нажом мінчаніна

ВІЛЕЙКА

Каля апоўначы 3 жніўня ў рэанімацыйнае аддзяленне Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы шпіталізавалі 36-гадовага мінчаніна. У яго – пранікальнае нажавое раненне брушной поласці з пашкоджаннем печані і рэзаная рана брушной поласці.

Следча-аператыўная група ўстанавіла, што пасля распівання спіртных напояў на лецішчы ў вёсцы Геркі ўзнікла сварка. У ходзе яе 47-гадовы мясцовы жыхар ударыў мінчаніна два разы нажом у жывот.

Па факце прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў ўзбуджаная крымінальная справа. Мужчыну затрымалі.

**Паводле УУС аблвыканкама.**

## Загінулі кіроўцы

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Трагедыя адбылася 5 жніўня а палове восьмай раніцы. 23-гадовы жыхар вёскі Іжа Вілейскага раёна, ляснік, ехаў на аўтамабілі "Фольксваген". Паблізу вёскі Астраўляны Мядзельскага раёна машына з'ехала ў кювет і стукнулася ў дрэва. Кіроўца загінуў.

Яго цела даставалі з аўтамабіля выратавальнікі.

Яшчэ адна аварыя са смяротным зыходам у рэгіёне адбылася 8 жніўня ў 19:30. Каля вёскі Шыпкі Вілейскага раёна мінчанін на аўтамашыне "Крайслер" на закругленні дарогі налева з'ехаў у кювет. Аўтамабіль перакуліўся. У выніку 38-гадовы кіроўца загінуў. Ён кіраваў машынай без вадзіцельскага пасведчання: пазбавілі ў 2014 годзе.

**Паводле МУС Беларусі.**

## Шукаюць мужчыну, які хаваецца ад следства

ВІЛЕЙКА

Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС адшуквае **Паўла Ігоніна.** Ён хаваецца ад следства за здзяйсненне злачынства, прадугледжанага часткай 1 артыкула 174 Крымінальнага кодэкса Беларусі (ухіленне бацькоў больш за тры месяцы на працягу года ад выплаты па судовай пастанове сродкаў на ўтрыманне непаўналетніх або паўналетніх, але непрацаздольных дзяцей, якія маюць патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе).



Паўлу Ігоніну – 38 год. Ураджэнец Прыморскага краю Расійскай Федэрацыі, зарэгістраваны і раней жыў у Вілейцы.

Прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост 165-175 сантыметраў, мажнага целаскладу, валасы чорныя.

Асаблівыя прыкметы: на твары ёсць шрам ад апёку.

Калі маеце інфармацыю аб месцы яго знаходжання, пераканаўчая просьба паведаміць пра гэта ў Вілейскі РАУС (тэлефоны: **8-01771-36348, 56462**).

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

Фрунзенский (г. Минска) отдел
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
объявляет набор на должности
МИЛИЦИОНЕРА
- ГРУППЫ ЗАДЕРЖАНИЯ
- ВОДИТЕЛЯ
Требования: не старше 25 лет, с образованием не ниже среднего, а также не служившие в Вооруженных Силах Республики Беларусь.
ПРЕДОСТАВЛЯЕМ ОБЩЕЖИТИЕ, производим компенсацию за найм жилого помещения.
Тел. (017) 201 49 46
(029) 322 99 53
Наш адрес: г. Минск, ул. Пономаренко, 4, группа кадров
УНП 100079433

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ
приглашает на службу на должности
• МИЛИЦИОНЕРОВ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-КИНОЛОГОВ
лиц годных к строевой службе в армии, образование не ниже среднего, возраст до 25 лет, служба в армии не обязательна
иногородним предоставляется общежитие
кандидаты имеют возможность пройти льготное обучение на курсах водителей кат. B
Тел.: (017) 245-67-83,
(029) 550 05 62, (044) 731 36 64
Обращаться: г. Минск, ул. Уральская, 9-6
УНП 100349886

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЖАМ

# Пацыентка напісала адмову ад шпіталізацыі

ВАЛОЖЫН

**Маладзечанка Наталля Яўстрацэнка разам з сынам трапіла ў інфекцыйнае аддзяленне валожынскай бальніцы.**

Пабыўшы там суткі, у маладой мамы засталося столькі ўражанняў, што яна вырашыла расказаць пра іх на старонках газеты:

"Майму сыну 1 год і 8 месяцаў. Пару дзён таму ў яго паднялася тэмпература – 39,6. Мы з мужам адвезлі сына ў Маладзечанскую дзіцячую бальніцу. Доктар сказаў, што нам трэба тэрмінова ў Валожын, там ёсць інфекцыйнае аддзяленне.

…І вось наша палата з ганарлівай таблічкай на дзвярах "Бокс №2". Даўжыня палаты – на два ложкі і дзве тумбачкі, шырыня – на шырыню акна. Наступнае, што кідаецца ў вочы, гэта адсутнасць занавесак. Тое, як вы будзеце пераапранацца да сну, могуць заўважыць жыхары ўсіх суседніх жылых дамоў.

Далей болей.

**Бруднае акно, каля якога лёталі і поўзалі нейкія мошкі і жучкі. Іх мёртвыя сваякі ляжалі на падваконні. У кутах на акне цвіль. На стале яна таксама прабівалася скрозь пласт пабелкі. Тынкоўка на сценах месцамі адвальваецца.**

У прыбіральні, якая была ў палаце, не гарэла лямпачка, пра што мяне адразу папярэдзіў медперсанал. Добра, я адна ў палаце ляжала, і можна прыадчыніць дзверы, каб трапляла дзённае святло. Але калі б у палаце ляжаў яшчэ адзін пацыент? Спраўляць патрэбу ў цемры або з адчыненымі дзвярыма ў палату, дзе чужы чалавек?

Мой сын закінуў цацкі за ложак і тумбачку, і мне прыйшлося іх адсунуць. Лепш бы я гэтага не рабіла. Кавалак засохлага печыва, валасы, пыл, маленькі дзіцячы мячык, кавалак фольгі ад нейкай упакоўкі. Правяла сурвэткай па падлозе і жахнулася! Мабыць, падлогу тут не мылі з часоў цара Гароха. Дарэчы, пры мне палату пазней памылі двойчы. Але ў палату санітарка заходзіла з вядром ужо бруднай вады, апускала туды анучу і проста размазвала бруд па палаце. Ні пра якое перасоўванне мэблі гаворка не ішла!

Справа набліжалася да вечара, я пачала прыкідваць, як нам класціся спаць. Абстаноўка новая, дзіця пачынала капрызіць. Спалі мы на вузкім ложку ўдваіх. І гэта пры тым, што ў суседняй палаце на раніцу я ўбачыла дзіцячы ложачак. Так, ён стары, дзесьці парваны вяровачкі, але і яго нават не прапанавалі!

І дарэчы, з дзіцем там ляжала толькі я адна.

Я паставіла падушку ражком да сцяны, каб сын не дакранаўся да яе целам. Дзірку паміж ложкам і сцяной заклала паловай коўдры, другой паловай накрыла дзіця. Сама легла без падушкі і коўдры. Заснуў сын толькі каля 23:00.

Па калідоры ўвесь час нехта хадзіў, запальваў святло, і яно праз акно трапляла да нас у палату (так, у палаце было яшчэ акно ў калідор). Апоўначы дзіця прачнулася ў дзікай істэрыцы, плакала без перапынку паўтары гадзіны.

Пры гэтым пакой, дзе была дзяжурная медсястра, знаходзіўся побач, яна сапраўды чула гэты гучны і працяглы плач. Але да нас ноччу ніхто не падышоў. Хаця чаму я здзіўляюся, да нас і перад сном ніхто не заходзіў. У 18:00 зрабілі ўкол антыбіётыка і спыталі, ці ёсць у мяне з сабой дзіцячае гарачкапаніжальнае.

На раніцу я напісала адмову ад шпіталізацыі.

Перад тым, як напісаць свой аповед, я зайшла на сайт Валожынскай цэнтральнай раённай бальніцы". Размясцілі здымкі ўвахода ў інфекцыйнае аддзяленне, калідора і працэдурнага кабінета. Фатаграфій палат няма"…



Даўжыня палаты, у якой ляжала Наталля з сынам, на два ложкі і дзве тумбачкі, шырыня роўная аднаму акну.

Фота Наталлі ЯЎСТРАЦЭНКА

## Змагаюцца за інфекцыйную бальніцу ў Маладзечне

Цяпер Наталля Яўстрацэнка спрабуе напісаць калектыўны зварот у Міністэрства аховы здароўя і арганізаваць збор подпісаў на пабудову дзіцячага інфекцыйнага аддзялення ў Маладзечне.

– У раёне больш за 26 тысяч дзяцей да 18 гадоў, а інфекцыйкі няма, – абураецца жанчына.

## Калі хочаш дапамагчы, звяртайся да кіраўніцтва бальніцы, а не ў інтэрнэт-суполкі

Так лічыць галоўны доктар бальніцы **Яраслаў Мянцюк.**

– У гэтай сітуацыі вельмі шмат спрэчных момантаў, – каментуе Яраслаў Аляксандравіч. – Фотаздымкі нашай пацыенткі, што трапілі ў сеціва, зробленыя не ў адной палаце, а па ўсім аддзяленні. Вядома, з такім падыходам хібы можна знайсці паўсюль.

Цяпер галоўны доктар забараніў пацыентам свабодна перамяшчацца па аддзяленні, а медыцынскі персанал абавязаў за гэтым пільна сачыць.

– Калі мэтай пацыенткі было пакаранне медперсаналу, то яна гэтай мэты дасягнула, працягвае галоўны доктар, – звольнены загадчык інфекцыйнага аддзялення, малодшы медыцынскі персанал. Я атрымаў вымову. Але ж, калі верыць словам жанчыны, яна хацела дамагчыся наведзення парадку, а для гэтага трэба было проста паведаміць пра недахопы кіраўніцтву бальніцы.

Як сцвярджае Яраслаў Мянцюк, Наталля Яўстрацэнка не проста не пакінула сваіх заўваг ні ў вусным, ні ў пісьмовым выглядзе, а нават пры выпісцы з бальніцы напісала, што ў яе прэтэнзій да медперсаналу няма.

– Жанчына скардзіцца, што ёй не прапанавалі дзіцячы ложак? А чаму яна не папрасіла? Нашы пацыенткі часта адмаўляюцца ад ложка, каб спаць побач з дзіцем, – працягвае галоўны доктар.

**Між тым, калі вы саромеецеся паведаміць самім дактарам пра тое, што вас не задавальняе ва ўмовах ці абслугоўванні, можна звярнуцца па тэлефоне "гарачай" лініі: (8-01772) 55-5-05.**

Рамонт у бальніцы ідзе па плане. Сёлета адрамантавалі два паверхі тэрапеўтычнага аддзялення, цяпер рамантуюць Івянецкую бальніцу. Што датычыцца інфекцыйнага аддзялення, то рамонт там быў у 2009 годзе.

Цяпер жа вядуцца работы па замене вентыляцыі, на вокны паставілі маскітныя сеткі.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Пяць гадоў кватэры і падвал па Францішка Скарыны затапляе адходамі ад каналізацыі

МАЛАДЗЕЧНА

**На працягу пяці гадоў у доме па вуліцы Францішка Скарыны, 47 затапляе падвал адходамі ад каналізацыі.**

– Спачатку сістэматычна затапляла кватэру №24 на першым паверсе, у якой я жыву, і суседнія кватэры №21 і 22, – узрушаная **Святлана Бараноўская**. – Пасля чарговага затаплення работнікі аварыйнай службы паралі нам паставіць заглушкі на каналізацыйныя стаякі, дапамаглі гэта зрабіць. Здаецца, кватэра была ў бяспецы. Аднак стала рэгулярна затапляць падвал.

Як адзначае жанчына, ужо даўно ніхто не захоўвае там нарыхтоўкі і гародніну – згніе.

Жыхары дома неаднаразова звярталіся ў ЖРЭУ №4, да якога адносіцца дом, пісалі калектыўныя заявы ў ЖРЭУ, "Камунальнік", Маладзечанскі райвыканкам. Аднак з усіх інстанцый атрымалі аднолькавыя адказы: "затапленне адбывалася па прычыне няправільнага выкарыстання сістэмы каналізацыі жыхарамі дома; наступствы затаплення каналізацыйнымі водамі ліквідаваныя".

– Дарэчы, віна людзей ніколі не пацвярджалася, – выступае жанчына ад імя ўсіх жыхароў. – З каналізацыі ніколі не дасталі старонніх прадметаў.

Прычыну такой сітуацыі жыхары дома бачаць у тым, што падчас будаўніцтва былі парушэнні, а ў падвале пакладзеныя каналізацыйныя трубы меншага дыяметру, чым на стаяках, за гады эксплуатацыі дома сістэма магла прасесці.

– Камунальныя паслугі мы аплачваем своечасова. Чаму мы павінны жыць у выграбной яме? – узрушаецца жыхарка дома. – У кватэры, у пад'ездзе стаіць непрыемны пах, у падвал не зайсці – паўсюль смярдзіць, з'явіліся мошкі, плаваюць фекаліі, якія хутка дойдуць да калена.

## Сітуацыю тлумачыць ЖРЭУ №4

– Апошні раз, калі паступіў сігнал з гэтага дома, нашы супрацоўнікі дасталі анучу з каналізацыі – праз яе і забілася сістэма, – тлумачыць намеснік начальніка ЖРЭУ №4 **Максім Чаеўскі**. – Магу параіць толькі адно: каб не здараліся падобныя сітуацыі, не трэба кідаць староннія прадметы ў каналізацыю.

Намеснік начальніка ЖРЭУ №4 прааналізаваў колькасць скаргаў за гэты год з дома №47 – іх было чатыры, апошняя 3 жніўня.

**– Калі б сапраўды прасела сістэма, былі няспраўныя трубы, то жыхароў затапляла б ледзьве не кожны дзень.**

А так затапленні наступаюць перыядычна, – тлумачыць спецыяліст.

Максім Чаеўскі адзначае, што неаднаразова камунальныя службы вывешвалі на пад'ездзе гэтага дома правілы карыстання каналізацыяй. Але выніку ад гэтага пакуль няма.

На словах Максіма Чаеўскага, ЖРЭУ №4 рэгулярна аналізуе прычыны, па якіх забіваецца каналізацыя. У большасці выпадкаў вінаватыя самі жыхары.

**Галіна СІНІЦА.**




Фота забяспечыла Святлана БАРАНОЎСКАЯ.

Падвал па вуліцы Францішка Скарыны, 47 затапляе рэгулярна.

КНІГІ

# Міхась Казлоўскі: “Я кроў ад крыві гэтага народа”

МАЛАДЗЕЧНА

**Якія зоркі беларушчыны праязджалі чыгункай праз Маладзечна, дзе збіраліся мастакі слухаць Шапэна, пад што прыстасавалі бровар у яшчэ бедным на будынкі даваенным горадзе? Хто сёння можа распавесці пра Беларусь на Маладзечаншчыне праз кнігу з безліччу малавядомых і сакавітых фактаў лепш за Міхася Казлоўскага?**

Сваю кніжную экскурсію краязнаўца і бібліяфіл Міхась Казлоўскі надрукаваў ў зборніку “Цяпло айчынных камянёў”. Аўтар распавядае не толькі пра знакавых асоб, чый лёс звязаны з Маладзечаншчынай, месцы, што памятаюць іх, але і пра сваю родную вёску Быкі, якая цяпер мае назву Рабінавая.

– Наклад такі, які дазволілі мае фінансавыя магчымасці, – тлумачыць аўтар, чаму выдаў толькі сто экзэмпляраў. – Калі б хтосьці быў зацікаўлены ў больш масавым накладзе, то дапамог бы выдаць. Частка матэрыялу была распрацаваная сумесна з журналісткай **Інай Кандауравай**, якая на той час працавала ў “Маладзечанскай газеце”. Гэта ў яе з’явілася ідэя праз будынкі распавядаць пра гісторыі месца і людзей. Але ёсць яшчэ вельмі шмат мясцін, пра якія можна было б гаварыць. Пісаў пра тых, каго на момант напісання ўжо не было. Адзінае выключэнне тычыцца **Янкі Галубовіча**. Кніга прысвечаная яго памяці, таму не ўзгадаць гэтага пісьменніка было б незразумелым для чытача.

## Калі ад камянёў павявае цеплынёй

Назву кнігі аўтар напаўняе шматузроўневым сэнсам. Па-першае, у нашай краіне толькі ў Маладзечне ёсць помнік дарозе, “Віленскаму тракту”, у выглядзе каменя. Яго выяву змясцілі на вокладцы.

Па-другое, для аўтара гэта вобраз людзей, якія ў жыцці мелі і непрыемнасці, і нязручнасці, аднак засталіся камянямі, менавіта цёплымі камянямі. А па-трэцяе, камяні заўсёды пакладзеныя ў аснову дома, у яго падмурак.

Кніга “Цяпло айчынных камянёў” падзелена на тры часткі. У першай аўтар праводзіць культурніцка-літаратурную экскурсію па Маладзечне і Радашкавічах. У другой вандруе па лабірынтах памяці ў роднай вёсцы Быкі. У трэцяй адводзіць месца для аповеду пра **Міколу Ермаловіча**, **Генадзя Каханоўскага**, **Пятра Бітэля**, **Міколу Капыловіча і Тацццяну Сапач**.

– У кожнага чалавека ёсць асабістыя сімпатыі – гэта па-першае, – тлумачыць структурнае рашэнне Міхась Казлоўскі. – А па-другое, пра іх сказана непараўнальна мала, таму і вырашыў паказаць іх у кнізе праз літаратурныя партрэты. У частцы пра мае Быкі ўважлівы чытач заўважыць, што яна не пра “мяне любімага”. Я там толькі непрыкметны фон, а вакол – людзі і падзеі. Я раблю акцэнт на з’явы, якія цяпер незаўважныя ці наогул зніклі, а тады былі.




**Міхась Казлоўскі:**

***У глыбіні душы ў кожнага беларуса ёсць адчуванне віны за мову. Я магу крытыкаваць мой народ, бо я кроў ад крыві гэтага народа. Не той патрыёт, хто ўвесь час хваліць, а хто бачыць недахопы і спрабуе ад іх пазбавіцца.***

## Сямейная гісторыя – гэта лёс нашага народа

Аўтар перакананы, што такога дэталёвага аповеду заслугоўвае кожная вёска, вось толькі б знайшоўся той, хто занатуе словы:

– Мяне не пакідае думка напісаць кнігу пра беларускую вёску, бо яна знікае, а гэта наша альфа і амега, пачатак і канец. Мы – сялянская нацыя, якая за паўстагоддзя стала ўрбанізаванай і якой не пашчасціла ў 1918 годзе здабыць незалежнасць. Я заўсёды казаў, што калі вам распавядалі нешта цікавае, запішыце. Успаміны не павінны памерці, гэта не прыватны выпадак, а лёс нашага народа.

Успаміны Міхася Казлоўскага дэталёвыя і яскравыя. Ён памятае падзеі, нібы ўчора паглядзеў іх у кіно, памятае фанетычныя асаблівасці гаворкі, памятае, якімі казкамі забаўляла мама. І запісаць усё гэта вырашыў дзякуючы маме:

– У кнізе ёсць успамін, калі мы з мамай засталіся адны. Сёстры павыходзілі замуж, а бацька трагічна пайшоў з жыцця, калі я быў зусім малы. Мы ўдваіх забіраліся на печ, і мама нешта апавядала. Расказвала, як плакала, калі памёр **Пілсудскі**, а пасля думала – чаго я, што мне добрага зрабіў гэты чалавек? Расказвала, як у 1944 годзе фашысты акружылі вёску. Падзялілі людзей на дзве часткі і пагналі да гумнаў. Сказалі, што калі цягам гадзіны пачуюць хоць адзін партызанскі стрэл, то вёску спаляць, а жыхароў расстраляюць. А маме 18-ы год. На вуліцы цвіце бэз. У нейкіх 50 метрах з кулямётам сядзяць нямецкія салдаты. Маладыя, амаль маміны равеснікі. Гавораць, смяюцца. Мама лепш за ўсё запомніла той смех нямецкіх салдат – нібы яны іх не расстрэльваць збіраюцца, а на танцы запрашаць. Я не хацеў, каб маміны аповеды сышлі ў нябыт. У іх квінтэсенцыя нашага жыцця, наша народная трагедыя.

## Чаму мы не ведаем пра зорак, з якімі жывём на адной зямлі

– Гэта мінусы не толькі нашай адукацыі, але і нашага маральнага стрыжня. Я не магу патлумачыць, чаму мы такія. Здаецца, добрыя людзі, але няма таго, на чым усё трымаецца. А трымаць павінна пазіцыя Несцеркі з п’есы Віталя Вольскага: “Пуп зямлі там, дзе я стаю!” Калі б мы гэта зразумелі, то ўсё стала б на свае месцы. У многіх беларусаў ёсць нейкае самапрыніжэнне. У мяне гэтага няма. Моцна паўплывалі словы дзеда Васіля, які сказаў, што “сама лепш, каб Беларусь была незалежная”. Наша гісторыя трагічная, але велічная. Наша мастацтва – самадастатковае. Не ведаю, адкуль гэта ў мяне. Баюся, што ў далейшым гэта кнігі адыгралі ролю. У доме ў нас была толькі адна кніга, таму хадзіў у бібліятэку. Камп’ютар дае адказы на пытанні, а кніга фарміруе асобу.

## Што ў Быках значыла “нашы”

– Я хацеў паказаць, якім грамадства было тады. Па-беларуску размаўлялі, але механічна. Гэта было хутчэй пачуццё кланавасці. Адна з сясцёр любіла русіць, і мама гэта вельмі абсякала, з яе смяяліся. Тое, што мы адметныя, маем іншасць, было, але больш вузкарэгіянальнае, не нацыянальнае.

## Як здабыць аўтарытэт

– У кнізе я ў тым ліку кажу пра людзей, якія для мяне маральная мерка, арыенцір – калі словы не разыходзяцца са справай. Для тых, на каго арыентаваўся я, мова была не парадным адзеннем, а мовай штодзённага ўжытку. Заўсёды па-беларуску размаўлялі КахаНоўскі, Ермаловіч, **Уладзіслаў Чарняўскі**, **Ляшковіч**, якія быў партработнікам і франтавіком. У іх не было двайных стандартаў. Калі мова была для іх каштоўнасцю, то гэтай каштоўнасцю і жылі. Таму яны перараслі ў мае аўтарытэты.

Зоя ХРУЦКАЯ.




**Міхаіл Крыжаноўскі, фотамастак з Мінска, на адкрыцці выставы ў Вілейцы.**

ВЫСТАВЫ

# Фотамастак Міхаіл Крыжаноўскі: “Працы збіраў пяць год”

ВІЛЕЙКА

**У выніку з’явіўся творчы фотапраект, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння кампазітара і палітычнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага.**

Пазнаёміцца з ім можна ў выставачнай зале імя Сілівановіча. Тут 7 жніўня адкрылася выстава фотамастака з Мінска Міхаіла Крыжаноўскага “Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці”.

На ёй выстаўлена каля 60 прац. Ёсць як рэпартажныя, так і партрэтныя фота. А таксама інсталяцыі, у якіх з’ядналі жывапіс і камп’ютарная графіка.

На выставе паказаныя помнікі гісторыка-культурнай спадчыны Агінскіх: ансамбль былога маёнтка Агінскіх пачатку 19 стагоддзя ў Залессі, рэшткі маёнтка Ганута ў Ручыцы на Вілейшчыне. Ёсць працы, прысвечаныя мясцінам Агінскіх на тэрыторыі суседняй Літвы.

## “Хачу, каб больш людзей даведалася пра Агінскага”

– Мне Міхал Клеафас Агінскі цікавы тым, што ён у адной асобе і дыпламат, і мецэнат, і музыкант. Я сам з мастацтвам звязаны, і вельмі зацікавіла, што такі чалавек жыў, напісаў шмат твораў. Адзін з іх – знакаміты паланэз “Развітанне з Радзімай”, дзякуючы якому больш за 200 год людзі цікавяцца творчасцю Агінскага. Вывучаў, чым ён займаўся, дзе жыў, яго сям’ю.

Міхаіл удзельнічаў у мерапрыемствах фонду “Паўночныя Афіны” са Смаргоншчыны, “Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага” (Маладзечна). Фатаграфаваў розныя імпрэзы. А калі здымкі пачалі назапашвацца, падумаў: “А чаму б не арганізаваць фотавыставу?”.

Матэрыял для яе збіраўся пяць год. Падтрымаў ідэю намеснік старшыні Беларускага фонду культуры **Тадэвуш Стружэцкі**. Выстава праходзіць у межах культурнага праекта “Ад Залесся да Парыжа”, які рэалізуе Беларускі фонд культуры сумесна з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй.

Да Вілейкі выставу паказвалі ў Залессі, Мінску. Плануюць паказаць у іншых беларускіх гарадах, Літве, Польшчы, а таксама ў месцах, дзе жыў і тварыў Міхал Клеафас Агінскі і яго сваякі.

– Для мяне выстава – гэта такая прыемная магчымасць падзяліцца сваімі думкамі, паказаць, што змог зрабіць. Проста хачу, каб больш людзей даведалася пра асобу Агінскага, яго творчасць і сям’ю.

Фотапраект пастаянна папаўняецца. З’явілася выява незвычайнай музычнай лавы, якую на днях устанавілі ў Верхнім горадзе ў Мінску.

Працягнецца выстава да 28 жніўня.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# “Нябачныя помнікі Вялікай вайны” паказваюць у Мядзеле

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць выстава фатографа з Пастаў **Андрэя Мацура** “Нябачныя помнікі Вялікай вайны”. Працягнецца яна да 28 жніўня, расказала выканальніца абавязкаў дырэктара музея **Наталля Бурак**.

На чорна-белых фотаздымках можна пабачыць помнікі і месцы, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай: вайсковыя могілкі, рэшткі нямецкіх дотаў, акопы…

Гэту выставу да 8 ліпеня паказвалі ў Вілейцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

● КРАЯЗНАЎСТВА

# Мясцовыя помнікі дрэваглiннай архітэктуры

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №32*

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ, МАЛАДЗЕЧНА

**Часткова ці цалкам зробленыя з зямлі альбо гліны пабудовы складаюць прыкладна 20% сусветна прызнаных помнікаў культуры, якія ўваходзяць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.**

Такія прыродныя матэрыялы былі выкарыстаныя пры будаўніцтве пірамід Сонца і Месяца ў мексіканскім Тэаціўкане і шэрагу іншых маляўнічых помнікаў сусветнага дойлідства.


WSPOMÓŻMY WIEŚ!

MIKOŁAJ NIEWIEROWICZ

PORADNIK WIEJSKIEGO BUDOWNICTWA OGNIOTRWAŁEGO Z GLINY I DRZEWA LUB BETONU I DRZEWA

WYDANE Z ZASIŁKU PAŃSTWOWEGO BANKU ROLNEGO
WILNO — 1930 R.

Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Вокладка кнігі Мікалая Невяровіча.

## Будаваць такі дом маглі жанчыны і падлеткі

Творчым прадаўжальнікам, актыўным прапагандыстам такога спецыфічнага будаўніцтва, які істотна ўдасканаліў дадзены метад, стаў будаўнічы майстар і аўтар уласнаназванага метада будаўніцтва **Мікалай Невяровіч**.

Пакуль няшмат вядома пра яго. У літаратуры падаецца, што нарадзіўся каля 1870 года і памёр дзесьці ў 1940. У працы 1930 года Невяровіч зрабіў спасылку на свой адрас: "Пошта Солы, павет Ашмянскі, паштовая скрыня №12". У сувязі з гэтым можна меркаваць, што ён быў звязаны якімсьці чынам з сольскімі ваколіцамі.

Распрацаваная Мікалаем Невяровічам сістэма дрэваглiннага будаўніцтва была ў 1900 годзе заўважаная Віленскім сельскагаспадарчым таварыствам, і аўтара папрасілі зачытаць рэферат на вальным пасяджэнні таварыства. Даследаванне з энтузіязмам было ўспрынятае і хутка надрукаванае на рускай мове. Дадзеную працу перадрукоўвалі яшчэ тры разы ў выглядзе брашур ці невялікай кніжкі.

Для нашчадкаў захавалася даволі грунтоўная, у 116 старонак, яго кніга "Парады вясковага вогнетрывалага будаўніцтва з гліны і дрэва альбо бетону і дрэва", якая пабачыла свет ў 1930 годзе ў Вільні, а праз два гады перавыдадзеная ў Варшаве. Быў гэта перадрук з мінулых выданняў, перакладзены з рускай на польскую мову сябрам Невяровіча і яго шматгадовым супрацоўнікам, інжынерам **Уладзіславам Рэйхманам**.

Што цікава, кніжка выдадзеная сумеснымі намаганнямі Дзяржаўнага сельскагаспадарчага банка і Віленскім таварыствам гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый – гэтым істотна падкрэслівала прэстыж выдання і сведчыла пра важкасць самага "метада Невяровіча". Багата ілюстраваная кніжка была прызначаная "ў першую чаргу тым, хто, карыстаючыся з размешчаных у ёй парадаў, жадаў уласнаручна ўзнесці сваё жыллё і гаспадарчыя муры".

Спецыфіка яго метада ўзнясення будынкаў заключалася ў тым, што дробнапамерная дрэва для абпалу памяшканняў (паленні) клалася радамі і спайвалася глінай. Мікалай Невяровіч лічыў сваю сістэму таннай, простай у выкананні і даступнай для працы жанчынамі і падлеткамі.

Перакладчык і аўтар прадмовы да кнігі Рэйхман, перакладаючы на польскую мову ранейшыя рускамоўныя выданні, стварыў неалагізм "дрэваглiна", які з таго часу замацаваўся ў слоўніку суседняй дзяржавы.

## Пяць пабудоў Смаргоншчыны

Невяровіч напрыканцы працы пазначыў 35 будынкаў, якія былі выкананыя паводле сістэмы аўтара ў мінулыя гады. Для жыхароў Смаргонскага раёна цікавасць выклікаюць пяць першых у спісе аб'ектаў з пераліку.

Першым пазначаны дом у мястэчку Солы. Там месціліся каса Стэфчыка, гандлёвы кааператыў "Сноп", сельскагаспадарчы гурток, малачарня (кааператыў па зборы малака). Пабудаваны ў 1909 годзе пры дапамозе ксяндза **Л. Радзевіча**.

Таксама ў самім мястэчку знаходзіўся двухпавярховы дом пана **Валентыновіча**, пабудаваны вучнем аўтара **С. Клімашэўскім** у 1928 годзе.

Наступным пазначаны жылы дом у маёнтку Малыя Солы – уласнасць пана **Паўла Іванова**. Дом пабудаваны ў 1908 годзе і на працягу 14 год быў неатынкаваны і непабелены.

На чацвертай пазіцыі занатаваны жылы дом пана **Вішнеўскага** з маёнтка Вішнёўка. Пабудавалі яго ў 1912 годзе, быў крыты бетоннай дахоўкай.

Пятым аб'ектам Невяровіч адзначыў пабудаванае ў 1907 годзе жыллё для парабкаў, так званы чварак, у маёнтку Асіпаны пана **А. Сівіцкага**.

З усіх пералічаных пабудоў з дрэва і гліны да сённяшняга дня захаваліся ў крыху перагробленым выглядзе толькі два аб'екты. У Асіпанах былое жыллё мясцовай аграгаспадаркай пад млын, а ў доме былога маёнтка Малыя Солы, што побач з мясцовым рыбгасам, жывуць дзве сям'і. На месцы дома, дзе была каса Стэфчыка і іншыя кааператывы, сёння знаходзіцца Сольскі Дом культуры.

Не захаваўся у Солах і двухпавярховы дом Валентыновіча, дзе ў міжваенны час знаходзілася невялікае прадпрыемства па вырабе і гандлі піва, а ў пасляваенны час размяшчалася мясцовая амбулаторыя. Таксама не спрыяў лёс пабудове ў Вішнёўцы за сучасная вёскай Жалігова. Знікла не толькі жытло разам з тапанімічнай назвай, а і вялікі пласт мясцовай гісторыі.

## Дрэваглiнныя шматпавярхоўкі

Аднак у час даследавання новыя знаходкі нечакана дапоўнілі дадзеную тэму. У самых Солах захаваўся пабудаваны з гліны і дрэва шматкаўскі дом у цэнтры паселішча. Сёння пабудова, дзе месціцца магазін "Мота 555", абкладзеная сучаснымі будаўнічымі матэрыяламі, але ўнутры захоўвае некранутую дрэваглiнную аснову.

Таксама ў Солах была пабудаваная пажарная вежа. І яна з'явілася пацвярджэннем таго факта, што па дадзенай сістэме можна было будаваць шматпавярховыя трывалыя будынкі. У суседніх Ажугерах пра дрэваглiннае будаўніцтва нашых продкаў можа нагадаць адзіны паўразбураны будынак. Раней тут такіх жылых і гаспадарчых пабудоў па метадзе Невяровіча было некалькі.

Не менш цікавай загадкай застаюцца тры глінабітныя дамы на вуліцах Крэва. Па меркаванні краязнаўца **Аляксандра Камінскага**, яны былі пабудаваныя ў міжваенны час для вызначэння камерцыйнага попыту і цалкам верагодна, што маглі быць пабудаваныя па гэтай тэхналогіі. Увогуле ў крэўскай старонцы амаль ў кожным двары існавала па некалькі глінабітных пабудоў, якія былі амаль цалкам знішчаныя ў гады Першай сусветнай вайны.

## Тэхналогію перавезлі ў Амерыку

Пасля публікацыі артыкула пра дрэваглiннае будаўніцтва на Астравеччыне, высветлілася, што і ў гэтым рэгіёне захавалася некалькі такіх пабудоў. Супрацоўнікі "Астравецкай праўды" дапоўнілі: адна з іх знаходзіцца ў вёсцы Будрані. **Уладзіслаў Іванавіч Коўшык**, амаль 80-гадовы гаспадар хлеўчука з гліны і верасу, расказаў:

– Некалі гэта была панская канюшня, даўжынёй каля 100 метраў. Пабудавалі яе настолькі даўно, што нават мой дзед не памятаў, калі. Дрэва даўно згніло б, а глінка, бач, трымаецца. Мне 100 метраў непатрэбныя былі, дык я трактарам разбурыў лішняе і зрабіў хлявушок пад свой памер.

Далейшы пошук помнікаў глінабітнага будаўніцтва ў іншых мясцінах рэгіёна зможа прывесці да новых знаходак. У кнізе Невяровіча былі пазначаныя 12 жылых дамоў, якія на працягу 1909-1911 гадоў пабудавалі **М. Берман**, **Я. Фінкер**, **Я. Міхалонак** і іншыя гаспадары у Маладзечне.

Будаўніцтва з гліны і дрэва надзвычай цікавае, таму што грунтуецца на старых мясцовых традыцыях, мае шмат пераваг і пры гэтым застаецца актуальным. Ёсць звесткі, што многія эмігранты з нашых мясцін на пачатку мінулага стагоддзя ўзнеслі дрэваглiнныя пабудовы ў ЗША і Канадзе. Падобным будаўнічым тэхналогіям надаецца шмат увагі ў сучаснай нізкатэхналагічнай замежнай архітэктуры.

Напачатку мінулага года ў Польшчы выйшла ў свет рэпрынтнае выданне кнігі Мікалая Невяровіча, што сведчыць пра актуальнасць дрэваглiннага будаўніцтва і ўвагу да яго з боку нашых суседзяў. Упэўнены, што прыйдзе час, калі мы таксама часткова вернемся да такога ўнікальнага будаўніцтва.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**
**Больш фота на сайце**




● КАЛЯНДАР

### 14 ЖНІЎНЯ

**630 гадоў** назад (1385) была падпісаная Крэўская ўнія – дамова аб саюзе Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

**1975 год.** У ЗША Янка і Станіслаў Станкевічы заснавалі Вялікалітоўскі фонд імя Льва Сапегі – прыватны дабрачынны фонд для развіцця беларускай навукі.

### 15 ЖНІЎНЯ

**105 гадоў** назад (1910) памёр Зыгмунт Глогер, польскі этнограф, археолаг, які даследаваў Заходнюю Беларусь. Сабраў багатую бібліятэку, вялікую музейную калекцыю археалагічных, этнаграфічных, археаграфічных, нумізматычных і сфрагістычных матэрыялаў. Тут захоўваліся беларускія матэрыялы са збораў М. Федароўскага, А. Кіркора, К. Тышкевіча і Я. Тышкевіча, А. Ельскага і іншых. У яго "Старапольскай энцыклапедыі" (т. 1–4, 1900–03, 5-е выд. 1985) каля 1000 ілюстрацый, шматлікія беларускія матэрыялы па гісторыі, геаграфіі, драўлянай і мураванай архітэктуры, кнігадрукаванні, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, якія ён збіраў і даследаваў усё жыццё.

### 16 ЖНІЎНЯ

**1903 год**. Нарадзіўся Мікола Абрамчык (в. Сычавічы, цяпер Маладзечанскі раён), грамадска-палітычны дзеяч эміграцыі ў Чэхіі, Францыі і Германіі, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі (1947-1970 гг.). Скончыў Радашкавіцкую беларускую гімназію, працягваў адукацыю ў Празе (з 1923), вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі, быў дзеячам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. У 1930 пераехаў у Францыю, заснавальнік і кіраўнік Аб'яднання беларускіх рабочых "Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі" (1932), выдавец яго перыядычных выданняў "Бюлетэнь" і "Рэха". У 1941–1943 гадах – дзеяч Беларускага камітэта самапомачы (БКС) у Берліне, рэдактар газеты "Раніца" (1939—1944), арганізатар і лектар курсаў беларусазнаўства, выдавец кніг Якуба Коласа "Сымон-музыка" і Ларысы Генію "Ад родных ніў". Працаваў у Камітэце самапомачы ў Беластоку. У 1943 вярнуўся ў Парыж. Арганізаваў крывіцкую Раду БНР (крывіцкі блок) (1947).

### 19 ЖНІЎНЯ

**80 гадоў** назад (1935) у жніўні ў Заходняй Беларусі адбылося выступленне нарачанскіх рыбакоў за свабодную лоўлю рыбы ў возеры Нарач.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Шасцігадовы Ваня дапамагае бацькам уладкоўвацца на турстаянцы: ён напампоўвае матрац.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

АДПАЧЫНАК

# Адпачыць з вожыкамі і зайцамі

МЯДЗЕЛ

**Такі адпачынак можна наладзіць, калі прыехаць на турыстычныя стаянкі. Іх ля азёр Нацыянальнага парку "Нарачанскі" 15.**

На турстаянцы "Антанізберг" ля курортнага пасёлка Нарач (Купа) ужо ранкам у пятніцу, 7 жніўня, багата людзей.

– Адпачынак летам – гэта лес, возера. А санаторыі – гэта зімой, каб здароўе паправіць, – упэўніваюць Віктар і Людміла з Мінска. – Галоўнае, каб надвор'е было.

**– Як адпачываецца?**

– Добра. Дровы ёсць, душ, прыбіраюць тэрыторыю. Плацім па 58 тысяч з чалавека ў суткі. Шапік ёсць ды курортны пасёлак блізка. Гутарыў – людзі і па два тыдні тут адпачываюць. Што б я тут палепшыў? Месца ад шашы да возера мала, але хацелася б, каб тут нейкі пляж зрабілі. Каб можна было выйсці з возера і паляжаць.

Калі столькі дзён стаіць спякотнае надвор'е, пасля купання ў Нарачы расце верагоднасць атрымаць цэркарыёз (ці па-простаму сверб купальшчыка). У гэтай сям'і для каго купанне скончылася без наступстваў, а ў каго з'явіліся сверб і балячкі – якраз на мелкаводдзі і купаліся.

## Вожыкі падыходзілі да палаткі

Мінчане Ігар і Наталля з дзецьмі за апошнія тыдні на стаянцы "Антанізберг" пабывалі двойчы. Першы раз заселіся ў захапленні – людзей было няшмат, спакойна адпачывалі на прыродзе.

– Мне вогнішча спадабалася, смажыў сасіскі, – кажа шасцігадовы Ваня. – І возера – яно ж самае вялікае ў нас. Вожыкі тут ёсць.

Вожыкі падыходзілі блізка да палаткі, і заяц уначы з-пад машыны шугануў.

Але як прыехалі на гэтыя спякотныя выхадныя, то спакойнага сямейнага адпачынку ўжо не атрымалася.

Прыехалі ў пятніцу ранкам – усе альтанкі былі занятыя. Давялося ставіць палатку ля лавы. А людзі ўсё ехалі і ехалі, і нават уначы ставілі палаткі. На стаянцы сапраўды яблыку не было дзе ўпасці.

– Немаленькая ж стаянка, але як такая спякота, месцаў не хапае. Хай бы болей альтанак было, – кажа Наталля.

Яшчэ некаторыя кампаніі да позняй ночы шумна адзначалі свой выезд на Нарач, а на заўвагі рэагавалі так: "Ой, ну мы ж сюды вясяліцца прыехалі".

Так што на наступны раз, калі паездка выпадзе на спякотнае надвор'е, Ігар і Наталля будуць выбіраць турстаянку падалей ад трасы.

## Жнівень можа пабіць рэкорд

– Пустых стаянак у гэтыя выхадныя не было дакладна. А на тых, якія размешчаныя ўздоўж трасы, быў аншлаг. Бо не кожны хоча ехаць далёка, на Блакітныя азёры ці Расохі. Убачыў, што тут людзі адпачываюць, і добра, – кажа начальнік аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Людміла Краўчонак.** – Менш народу было на стаянках на азёрах Расохі, Воўчына. Яны ўбаку знаходзяцца, і там няма такога пляжнага беражка, з пясочкам. Там больш любяць рыбакі пасядзець з вудачкай, як і на возеры Вішнеўскае.

У чэрвені на турстаянках адпачылі каля трох тысяч чалавек, у ліпені – каля 8600. У мінулыя гады пасля ліпеня было зніжэнне адпачывальнікаў на турстаянках. А сёлетні жнівень, калі добрае надвор'е будзе трымацца, можа пабіць рэкорд.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".** Суткі знаходжання на стаянках "Антанізберг" і "Качаргі" абыдуцца ў 40 тысяч рублёў, на аўтакемпінгу "Нарач" – 50 тысяч рублёў, на іншых стаянках – 30 тысяч рублёў з чалавека.
Плюс спаганяецца кампенсацыйны збор – 18 тысяч рублёў за суткі. Яго не плацяць людзі, якія жывуць на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі", а таксама непаўналетнія, студэнты, пенсіянеры, інваліды і некаторыя іншыя катэгорыі грамадзян.

УЗАЕМАДАПАМОГА

# Звяртайце ўвагу на арыенціроўкі. Яны, сапраўды, дапамагаюць

СМАРГОНЬ

**Імя смаргонца Жэні ўжо з'яўлялася на старонках нашай газеты ў 2013 годзе.**

Тады і Смаргонь, і Маладзечна, і іншыя гарады рэгіёна шукалі 11-гадовага хлопчыка, які пайшоў з дому.

Хлопчыка знайшлі ў Маладзечне. Каардынатар пошукаў **Цімафей Дуброўскі** спецыяльна для Жэні зладзіў экскурсію ў пажарную часць. Хлопчык абяцаў выправіцца, з дому больш не збягаць і стаць пажарным.

Аднак некалькі тыдняў таму ў горадзе з'явіліся новыя арыенціроўкі: "Знік 13-гадовы хлопчык".

Пра гэта напісала "Рэгіянальная газета", размясціўшы арыенціроўку на старонках сваіх сацыяльных сетак.

**У той жа дзень пад запісам з'явіўся адзіны каментар ад падпісчыка: "Я бачыў яго".**

Каардынатар пошукаў Цімафей Дуброўскі учапіўся за гэту інфармацыю, падрабязна распытаў пра месца, дзе бачылі Яўгена:

– Паехалі туды, павесілі паўсюль арыенціроўкі. Але літаральна праз дзве гадзіны ўсе арыенціроўкі былі сарваныя. Ну, каму гэта трэба, акрамя таго, каго шукаюць? Праз некаторы час супрацоўнікі міліцыі затрымалі вучня 8 класа Смаргонскай школы.

Хлопчыка вярнулі ў сям'ю.

– Гэты выпадак рэальна паказаў, што арыенціроўкі рэальна дапамагаюць, – кажа Цімафей Дуброўскі. – Інфармацыя, магчыма, нават больш важная, чым тое, што група людзей будзе бегаць і шукаць кагосьці па горадзе. Таму я хачу звярнуцца да ўсіх людзей. Не праходзьце міма арыенціровак! Магчыма, ваш адзіны званок выратуе чалавека і дапаможа ў пошуках.

А пра далейшы лёс хлопчыка мы спыталіся ў камісіі па справах непаўналетніх Смаргонскага райвыканкама.

Там адказалі, што з Яўгенам працуюць даўно. У чэрвені нават звярталіся ў суд Смаргонскага раёна, каб яго накіраваць у лячэбна-выпраўленчую ўстанову закрытага тыпу. Суд тую заяву адхіліў.

– Мы не можам самі вырашаць лёс чалавека, бо ні бацькі, ні школа, ні РАУС з хадайніцтвам да нас не звярталіся, – адказалі ў камісіі.

Наталля ТУР.

СУВЯЗЬ

# Абанентаў "Зеніта" чакае хутчэйшы інтэрнэт

ВІЛЕЙКА

**Працягнулі працы па мадэрнізацыі тэлефоннай сеткі АТС "Зеніт" у Вілейцы.**

Медныя лініі сувязі мяняюць на оптавалаконныя. Пачалі гэтыя працы летась – з трох дамоў па вуліцах Талстога і Чапаева.

Цяпер будуць пераводзіць на оптавалаконныя лініі сувязі абанентаў АТС "Зеніт", нумары якіх пачынаюцца на "36, 37, 38", расказаў намеснік начальніка Вілейскага вузла электрасувязі **Уладзімір Дуровіч.**

Завяршыць мадэрнізацыю плануюць у першым квартале 2016 года.

Пераход на "оптавалакно" дасць магчымасць атрымаць увесь комплекс сучасных паслуг ад "Белтэлекама" – у тым ліку, падключэнне да інтэрнэту на вышэйшых хуткасцях.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# 16 жніўня МТС дорыць дзень бясплатных размоў унутры сеткі

**Для гэтага трэба толькі набраць *775# і націснуць "выклік".**

Актывацыя ўдзелу ў акцыі таксама бясплатная. Акцыя не абмяжоўваецца ні па колькасці, ні па працягласці тэлефанаванняў, але дзейнічае толькі для тэлефанаванняў ад абанента МТС да абанента МТС.

Паводле "Нашай Нівы".

● КАДРЫ

# Маладых дактароў стала больш

## Затое спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй паменшала

РЭГІЁН

**Сёлета да працы ў рэгіёне прыступілі 73 маладыя дактары. А гэта значыць, што на аднаго доктара прыйшло больш, чым летась. Затое на 15 чалавек спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй прыйшло менш – 125.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

6
✓ рэнтгеналагаў

3
✓ рэаніматолагі
✓ тэрапеўты
✓ хірургі

2
✓ доктары лабараторнай дыягностыкі
✓ педыятры
✓ неўролагі

1
✓ псіхіятр-нарколаг
✓ акушэр-гінеколаг
✓ доктар “хуткай дапамогі”
✓ оталарынголаг
✓ неанатолаг
✓ стызіятр

**АСТРАВЕЦ**

3
✓ тэрапеўты

2
✓ стаматолагі
✓ хірургі

1
✓ анестэзіёлаг-рэаніматолаг
✓ дэрматолаг-венеролаг
✓ доктар агульнай практыкі
✓ рэнтгенолаг
✓ педыятр

**СМАРГОНЬ**

3
✓ неўрапатолагі

2
✓ стаматолагі

1
✓ доктар агульнай практыкі
✓ доктар “хуткай дапамогі”
✓ анестэзіёлаг
✓ педыятр
✓ стызіятр
✓ хірург

**ВІЛЕЙКА**

2
✓ участковыя тэрапеўты
✓ стаматолагі

1
✓ хірург
✓ педыятр
✓ афтальмолаг
✓ анколаг

**АШМЯНЫ**

2
✓ акушэр-гінеколагі

1
✓ доктар агульнай практыкі
✓ рэнтгенолаг

**ВАЛОЖЫН**

1
✓ псіхіятр-нарколаг
✓ акушэр-гінеколаг
✓ інфекцыяніст
✓ афтальмолаг
✓ стаматолаг
✓ педыятр
✓ тэрапеўт

**МЯДЗЕЛ**

1
✓ псіхіятр-нарколаг
✓ стаматолаг

На малюнку паказаная колькасць спецыялістаў, якія прыйшлі ў бальніцы рэгіёна. На таблічках, якія трымаюць чалавечкі, пазначаныя назвы спецыяльнасцяў, на галовах чалавечкаў – колькасць спецыялістаў. Парады, як адаптавацца маладому спецыялісту ў калектыве, чытайце на старонцы 14.

| Горад | Якіх спецыялістаў не хапае |
|---|---|
| Астравец | Медсясцёр |
| Ашмяны | - |
| Валожын | Медыцынскіх сясцёр, вузкіх спецыялістаў (неанатолага, дэрматолага-венеролага) |
| Вілейка | - |
| Маладзечна | Доктара агульнай практыкі, анколага, тэрапеўтаў, неўролага |
| Мядзел | Афтальмолага, рэабілітолага, фізіятэрапеўта, доктара агульнай практыкі, тэрапеўта |
| Смаргонь | Тэрапеўта, акушэра-гінеколага, стаматолага, лабараторнай дыягностыкі, эндакрынолага |

| Горад | Колькасць спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй | Колькасць інтэрнаў |
|---|---|---|
| Астравец | **8 медыцынскіх работнікаў:**<br>✓ 3 медыцынскія сястры<br>✓ памочнік доктара<br>✓ фельчар-акушэр<br>✓ загадчык ФАПа<br>✓ 2 фельчары-лабаранты | **6 інтэрнаў па спецыяльнасцях:**<br>“анестэзіялогія і рэаніматалогія”, “тэрапія”, “лабараторная дыягностыка”, “агульная практыка” |
| Ашмяны | 4 медсястры | |
| Валожын | **14 медыцынскіх работнікаў:**<br>✓ 6 медсясцёр<br>✓ 8 фельчараў і памочнікаў доктара | |
| Вілейка | **20 медыцынскіх работнікаў:**<br>✓ 6 фельчараў-акушэраў<br>✓ 14 медсясцёр | **6 інтэрнаў па спецыяльнасцях:**<br>“анестэзіялогія-рэаніматалогія”, “тэрапія”, “рэнтгеналогія”, “лабараторная дыягностыка”, “стаматалогія”, “хуткая медыцынская дапамога” |
| Маладзечна | **54 медыцынскія работнікі:**<br>✓ 4 фельчары<br>✓ 9 памочнікаў доктара<br>✓ 38 медсясцёр<br>✓ 3 фельчары-лабаранты | **33 інтэрны па спецыяльнасцях:**<br>“педыятрыя”, “тэрапія”, “хуткая медыцынская дапамога”, “клінічна-лабараторная дыягностыка”, “анестэзіялогія”, “акушэрства і гінекалогія”, “неанаталогія”, “хірургія”, “дзіцячая хірургія” |
| Мядзел | **15 медыцынскіх работнікаў:**<br>✓ 7 медсясцёр<br>✓ 7 фельчараў-акушэраў<br>✓ зубны фельчар | **4 інтэрны па спецыяльнасці**<br>“тэрапія” |
| Смаргонь | **10 медыцынскіх работнікаў:**<br>✓ 8 медсясцёр<br>✓ 2 памочнікі доктара | **13 інтэрнаў па спецыяльнасцях:**<br>“хуткая медыцынская дапамога”, “педыятрыя”, “акушэрства і гінекалогія”, “клінічна-дыягнастычная лабараторыя”, “анестэзіялогія і рэаніматалогія”, “хірургія”, “оталарынгалогія”, “тэрапія”, “агульная практыка” |



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

ВЫПРАБАВАНА НА САБЕ

# Вытрымаць тры гадзіны з байцамі на трэніроўцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Карэспандэнт моладзевай рэдакцыі "РГ" Багдан Раманоўскі тры гадзіны трэніраваўся з чатырохразовым чэмпіёнам Беларусі па рукапашным бoi, неаднаразовым пераможцам і прызёрам міжнародных турніраў па рукапашным бoi i ўшу Сяргеем Фалеем.**

Шчыра, я думаў, што ўсё будзе больш… мякка. У такіх месцах мне яшчэ не даводзілася нават быць, не тое, што трэніравацца. Першае, што кінулася ў вочы, калі я зайшоў у залу, – чырвоная клетка і рынг. Побач з шафай – вагі, вада з кубкамі. У куце – пальчаткі для баёў.

Было сем гадзін вечара, але пакуль тут былі толькі мы з Сяргеем. Праз хвілін 10-15 прыйшлі дзевяць байцоў і трэнер **Алег Пятровіч**.

Пачалася размінка: нагінанні, прысяданні, скачкі, адпрацоўка удараў у паветры. Гэта цягнулася хвілін дзесяць. Дастаткова для таго, каб я адчуў сябе "дрышчом". Побач з гэтымі асілкамі, ад дыхання якіх пыл пад нагамі разлятаўся, я выглядаў крыху недарэчна.

Мабыць, трэнер гэта заўважыў і адправіў мяне займацца з Сяргеем, пакуль ён трэніраваў байцоў.

Бліжэйшыя хвілін дваццаць мы з ім адпрацоўвалі адзін прыём. Ён абхапіў мае грудзі рукамі і пацягнуў на сябе, каб я паваліўся. Мая задача была ўпасці на руку. Але не на ўсю, а толькі на частку ад кісці да локця. Потым мы памяняліся ролямі. Я мусіў паваліць яго.

Яшчэ калі першы раз зваліўся ад яго націску, адчуў непрыемны боль. Так бывае, калі доўга бяжыш з нейкім цяжкім грузам, а потым яго здымаеш.

### Чырвоная клетка

Другі этап трэніроўкі мне адназначна спадабаўся больш. Зразумеў, што ўсё ж такі штосьці магу. Я надзеў пальчаткі, а Сяргей – лапу, у якую я мусіў біць. Я адчуў сваю сілу.

Сяргей з лапай манеўраваў: то падыходзіў бліжэй, то адыходзіў назад, то адхіляўся ў бакі.

Мы трэніраваліся з паўгадзіны. Два разы перапыняліся на пяць хвілін. Тады я кідаўся да вады, яе ў гэты момант не хапала найбольш.

### Пасля клеткі – порцыя практыкаванняў і груша

Пасля адцісканняў і глыбокіх прысяданняў мы з Сяргеем пайшлі да грушы.

– Ты ляўша ці праўша? – пытаецца Сяргей.

– Праўша.

– Тады бі з левай. Апошні ўдар мусіць быць самым моцным. Калі ты праўша, то наймацнейшым будзе твой удар з правай, – дае парады Сяргей.

Спачатку "джэм" – адзін удар. Потым "двойка" – двайны ўдар. І "тройка" – трайны.

Парачка бакавых, з калена. Важна памятаць пра стойку. Калі адной рукой б'еш, другой трэба прыкрывацца.

### Бой

Напрыканцы – яшчэ крыху адцісканняў. І каб натхніцца на далейшыя подзвігі, Сяргей адправіў назіраць за сапраўдным боем.

– Стойка! Не забывай пра стойку! – Алег Пятровіч напружана сочыць за боем і дае настаўленні.

Я гляджу на рынг і бачу ў вачах байцоў жаданне выйграць. На разьмінцы яны сябры. Тут – супернікі.

Бой ідзе ў тры раўнды. Кожны па пяць хвілін. Паміж імі тры хвіліны адпачынку. Як толькі даюць сігнал на перарыў, байцы пытаюцца адзін у аднаго:

– Ты як? Усё нармальна?

– Так. Усё добра.

Пасля баёў я так і не дачакаўся, пакуль яны разыдуцца па дамах. Ім ёсць пра што паразмаўляць і што ўзгадаць. Як апошні бой маладзечанскага байца **Аляксея Кудзіна** ў Кітаі.

Увечары ўсё цела ныла. Затое раніцай – лёгкасць. Быццам сышло ўсё лішняе.

### Трэнер пра Сяргея Фалея

У трэнажорку Сяргей прыйшоў у 14 гадоў. У 16 займеў уласнага трэнера – Алега Пятровіча.

– Сяргей – таленавіты баец, – кажа Алег Пятровіч. – У яго добрыя здольнасці, якія ўвесь час яшчэ больш раскрываюцца падчас трэніровак. Яго жыццёвы дэвіз – быць лепшым. Гэтым ён падкрэслівае, што неабходна заўсёды імкнуцца да лепшага і ісці наперад. Сяргей валявы, дысцыплінаваны, смелы. У яго выдатная вытрымка, ён валодае сабой. Дзякуючы сваёй сіле ён можа пастаяць за блізкіх.

Карацей, я зразумеў, што з трэнерам мне пашанцавала. Сяргей даўно трэніруецца з маладымі чэмпіёнамі: **Аляксеем Кудзіным**, **Пятром Бірко**. Ён займаецца пяць разоў на тыдзень па два разы на дзень.

**Багдан РАМАНОЎСКІ,**
**моладзевая рэдакцыя "РГ".**




Фота Багдана РАМАНОЎСКАГА.

Трэніроўка байцоў – гэта не толькі баі, але і практыкаванні на прэс, прысяданні і адціскванні.

ФУТБОЛ

## Вынікі футбольнага тыдня

| Ліга | Каманды, якія спаборнічалі | Вынік гульні | Дата гульні |
|---|---|---|---|
| Першая ліга | "Кобрын" – "Смаргонь" | 1:3 | 9.08 |
| Другая ліга | "Прыазер'е" (Верхнядзвінск) – "Ашмяны" | 1:1 | 9.08 |
| | "Маладзечна ДЮСШ 4" – "Спартак" Шклоў | 3:0 (тэхнічнае паражэнне, каманда "Спартак" Шклоў не з'явілася на гульню) | 8.08 |
| Чэмпіянат Мінскай вобласці | "Вілія" (Вілейка) – "ДЮСШ-4" (Маладзечна) | 0:3 | 9.08 |
| | "Зорка" (Пухавіцкі раён) – "Забудова-Буд" (Чысць) | 2:0 | 9. 08 |

ХАКЕЙ

## Каляндар гульняў ХК "Дынама-Маладзечна" Сезон 2015-2016

### Першая стадыя першага этапа

| ВЕРАСЕНЬ | КАСТЫЧНІК | ЛІСТАПАД |
|---|---|---|
| **03.09 Брэст** | **01.10 Ліда** | 12.11 Магілёў |
| **05.09 "Юнацтва" Мінск** | **03.10 "Нёман" Гродна** | 14.11 "Дынама U-20" |
| 10.09 Віцебск | 08.10 "Шахцёр" Салігорск | 19.11 Брэст |
| 12.09 "Хімік" Наваполацк | **10.10 "Шахцёр" Салігорск** | 21.11 "Юнацтва"Мінск |
| **17.09 Магілёў** | 15.10 Ліда | |
| **19.09 "Дынама U-20"** | 17.10 "Нёман" Гродна | |
| 24.09 "Металург" Жлобін | **22.10 "Металург" Жлобін** | |
| 26.09 Гомель | **24.10 Гомель** | |
| | **29.10 Віцебск** | |
| | **31.10 "Хімік" Наваполацк** | |

Тлустым шрыфтам пазначаны дамашнія гульні каманды "Дынама-Маладзечна"

СВЯТЫ

# Як журналісткі "РГ" на два дні сталі вішнямі

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёмы штогадовы карпаратыўны спартыўна-культурніцкі фестываль "БАЖынкі" сёлета прымала Глыбокае.**

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" дэлегавала на фэст чатырох сваіх карэспандэнтаў: **Зою Хруцкую, Настассю Роўду, Аляксандру Парахню і Наталлю Тур**.

Глыбокае сустрэла нас спёкай і вішнямі, якімі частавала ўсіх удзельнікаў "БАЖынак" гаспадыня фэсту журналістка з Глыбокага **Таццяна Смоткіна**.

**Ад 2013 года горад лічыцца беларускай сталіцай вішняў, таму што на дзесяць жыхароў горада тут расце восем вішнёвых дрэў. А яшчэ ў Глыбокім ёсць помнік вішні.**

Адкуль мы гэта ведаем? А вось адкуль. Адным з заданняў сёлетніх "БАЖынак" было напісанне артыкулаў у беларускую Вікіпедыю. І маладзечанскай камандзе па жараб'ёўцы дасталася тэма якраз пра вішнёвы фэст, які тры гады запар ладзіцца ў Глыбокім.

Аднак да таго, як распачаць працу, гаспадары БАЖынак зладзілі экскурсію па сваім горадзе.

Нам было прыемна і нечакана ўбачыць у скверы знакамітых асоб Глыбоччыны – бюсты і нашых **Язэпа Драздовіча**, і **Ігната Буйніцкага**. Аказваецца, яны лёсам звязаныя з гэтымі мясцінамі. Язэп Драздовіч працаваў тут настаўнікам, як і ў Радашкавічах. А Ігнат Буйніцкі, будучы гаспадаром фальварка Палевачы непадалёк ад Глыбокага, тут заснаваў свой тэатр. У Маладзечне ён правёў свае апошнія дні.

Для аматараў містычных гісторый **Юры Каўбасіч**, настаўнік з Глыбокага, зладзіў экскурсію ў сутарэнні царквы Раства Прасвятой Багародзіцы (раней – касцёл ордэна кармелітаў). Па словах Юрыя Каўбасіча, той, хто прыходзіць сюды адзін, абавязкова сустрэнецца з прывідамі, якія "жывуць" тут сваім жыццём. Але нашай кампаніі так і не пашчасціла ўбачыць іх.

Затое са званіцы царквы пашчасціла ўбачыць Глыбокае як на далоні. Але для гэтага давялося падняцца на вышыню 24 метры па лесвіцы без парэнчаў. І гэта было таго варта!

## "Піражок з вішнямі" з'есці нельга, захапляцца – калі ласка

Назва нашай каманды "Піражок з вішнямі" нарадзілася адразу пасля таго, як мы даведаліся, што капітанам стаў сябра праўлення БАЖ **Алег Агееў.**

Камандай мы стваралі артыкулы ў Вікіпедыю, камандай змагаліся ў дартсе і валейболе, камандай заўзелі за Зою Хруцкую, якая ўпершыню ўзяла вуду ў рукі, каб паўдзельнічаць у конкурсе рыбнай лоўлі. Потым камандай ездзілі на возера, дзе пужалі мясцовых адпачывальнікаў нашай рэпетыцыяй прэзентацыі каманды, камандай падпявалі госцю "БАЖынак" **Зміцеру Вайцюшкевічу** і камандай зламалі арэлі на аграсядзібе ў вёсцы Валодзькі, што непадалёк ад Глыбокага.

**Вынікам нашай працы стала другое месца ў конкурсе прэзентацый камандаў, другое месца ў конкурсе Вікіпедыі, другое месца ў спартыўных спаборніцтвах.**

Атрымаўшы ў падарунак яшчэ адну славутасць Глыбокага – згушчонку, мы, змахнуўшы слязу, вымушаныя былі развітацца з "БАЖынкамі-2015". Цяпер пачнём рыхтавацца да "БАЖынак-2016", дзе маладзечанскі дрымцім (з англійскай – каманда мары) абавязкова стане першым.

Мы дзякуем арганізатарам і калегам за цудоўна праведзеныя выхадныя і чакаем хуткай сустрэчы на "БАЖынках-2016".

Даведка: **БАЖ** – беларуская асацыяцыя журналістаў.

**Наталля ТУР.**



Фота Барыса ГАРЭЦКАГА.

**Каманда "Піражок з вішнямі" – гэта Аляксандра Парахня (злева), Алег Агееў, Наталля Тур, Настасся Роўда і Зоя Хруцкая.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, дзіцячы "**Какоша – маленькі дракон**" (3D, Германія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
14 жніўня – у 16:00
15, 16 жніўня – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, фантастыка "**Па-за сабой**" (ЗША, 2015, з 16 год)
15 жніўня – у 15:00
18 жніўня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі, трылер "**Палтэргейст**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
15 жніўня – у 17:20
16 жніўня – у 15:00
19 жніўня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Антураж**" (ЗША, 2015, з 18 год)
16 жніўня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, жахі "**Выдаліць з сяброў**" (2D, Германія, Расія, 2015, з 18 год)
14 жніўня – у 17:50
17 жніўня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, трылер "**Місія невыканальная: Племя ізгояў**" (2D, США, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 жніўня – у 22:00. Цана білета: 50 000 рублёў
15 жніўня – у 19:20 (45 000 рублёў)
16, 18 жніўня – у 21:40 (45 000 рублёў)
17, 19 жніўня – у 19:00 (45 000 рублёў)

Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (ЗША, 2015, з 16 год)
14 жніўня – у 19:40 (45 000 рублёў)
15 жніўня – у 22:00 (50 000 рублёў)
16, 18 жніўня – у 19:20 (45 000 рублёў)
17, 19 жніўня – у 21:40 (45 000 рублёў)
20 жніўня – у 18:40 ( 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Прыгоды, баявік, фантастыка "**Фантастычная чацвёрка**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
20 жніўня – у 16:30, 21:00
Цана білета: 35 000-45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды, фантастыка "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
14 жніўня – у 17:00
16 жніўня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Оз: Нашэсце лятучых малпаў**" (Мексіка, 2015, без узроставых абмежаванняў)
15 жніўня – у 14:00
16, 19 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000-20 000 рублёў

Анімацыя, сямейны "**Тор: Легенда вікінгаў**" (Германія, Ірландыя, 2011, без узроставых абмежаванняў)
17 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, Аргенціна, 2013, без узроставых абмежаванняў)
18 жніўня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі**" (Расія, 2005, без узроставых абмежаванняў)
20 жніўня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 жніўня – у 16:00
16, 18 жніўня – у 18:00
20 жніўня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, трылер, дэтэктыў "**Як злавіць монстра**" (ЗША, 2014, з 16 год)
14, 16, 18 жніўня – у 21:00
19 жніўня – у 18:00
20 жніўня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, прыгоды, драма "**Апошнія рыцары"** (Чэхія, Паўднёвая Карэя, 2014, з 18 год)
15 жніўня – у 21:00
17, 19 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14 жніўня – у 19:00
15, 17 жніўня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Паштальён Пэт**" (Вялікабрытанія, без узроставых абмежаванняў)
14 жніўня – у 14:30
16 жніўня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прыгоды "**Пуцёўка ў жыццё**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14 жніўня – у 18:00
16 жніўня – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: сойка-перасмешніца ч. 1**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 жніўня – у 20:00
15 жніўня – у 18:00
16 жніўня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Казкі марскога ваўка**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
15 жніўня – у 13:30
16 жніўня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Ваўкі**" (Францыя, Канада, з 16 год)
15 жніўня – у 20:30
16 жніўня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Какоша – маленькі дракон**" (3D, Германія, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 жніўня – у 14:00
16 жніўня – у 13:00
Цана білета 15 000 рублёў

Баявік, трылер "**Місія невыканальная: Племя ізгояў**" (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 жніўня – у 18:30
15, 16 жніўня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Крымінальная камедыя "**Агенты А.Н.К.Л.**" (2D, ЗША, з 16 год)
14 жніўня – у 21:00
15 жніўня – у 16:00
16 жніўня – у 15:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, драма "Супер Майк XXL" (2D, ЗША, з 18 год)
15 жніўня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, трылер "Па-за сабой" (2D, ЗША, з 16 год)
16 жніўня – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі, трылер "Убраць з сяброў" (2D, ЗША, з 18 год)
16 жніўня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
14-20 ЖНІЎНЯ

**Авен.** Вас наведае натхненне, ды так, што вам захочацца ўзяць у рукі пэндзлік і паспрабаваць штонебудзь намаляваць.

**Цялец.** Уласнае жыццё зменіцца ў тым выпадку, калі вы пераменіце погляды і перастанеце шукаць ідэальнага спадарожніка жыцця.

**Блізняты.** Паспрабуйце ўвасобіць у жыццё старыя мары, тыя, што здаваліся немагчымымі. Вы цяпер не ладзіце з сабой, самакрытыка, часта зусім неканструктыўная, забірае шмат душэўных сіл.

**Рак.** Пазбягайце непатрэбнай рызыкі, беражыце сябе, і ўплыў негатыўных тэндэнцый не прынясе вам шкоды.

**Леў.** Старайцеся адказна адносіцца да правілаў і законаў. Бо калі раптам узнікнуць рознагалоссі з уладамі, трэба, каб вы былі ў поўным узбраенні. Веды ў гэтай справе – сіла.

**Дзева.** Ідзіце на ўступкі, калі ў гэтым ёсць патрэба, і настойвайце на сваім у выпадках, калі кампрамісы недапушчальныя.

**Шалі.** Шмат ідэй, шмат жаданняў. Засталося іх толькі ўвасобіць у жыццё. Вас чакаюць розныя стадыі азарэння, а таксама ўзнаўленне творчага патэнцыялу.

**Скарпіён.** Не з'язджайце далёка і надоўга – самыя цікавыя падзеі адбываюцца тут, і вам трэба сачыць за сітуацыяй.

**Стралец.** Перыяд неблагі, аднак вы чакалі значна большага. У гэтым прычына раздражнёнасці, дрэннага настрою, спрэчак. І вы з гарыччу выявіце, што на работу трэба аддаваць шмат часу, а на забавы – ну, зусім мала, і не наадварот. Што ж, навучыцеся атрымліваць задавальненне і ад работы.

**Казярог.** Вы, можа, і не асабліва маеце патрэбу ў адпачынку, аднак гэта не значыць, што вы не хочаце расслабіцца. Расслабляйцеся, але не забывайце паглядаць на гадзіннік, трэба ж ведаць меру.

**Вадалей.** Увесь год – гэта час грандыёзных ідэй для простага і паўсядзённага шчасця. Не забывайце, што яно ствараецца кожны дзень шляхам, здавалася б, выпадковых рашэнняў, сустрэч, мімалётных размоў, таго, што робіць наша жыццё напоўненым і змястоўным.

**Рыбы.** Пачынайце новыя справы ну проста з панядзелка. Гэта тычыцца і працы, і любоўных адносін. І не трацьце час на пустое.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

## ● НАДВОР'Е

**15 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 / +25 | | +15 / +25 | | +16 / +24 | | +14 / +20 | |
| | 745 | ↙ 5 | 740 | ↓ 3 | 739 | ↓ 5 | 742 | ↙ 4 |
| Вільня | +14 / +21 | | +13 / +22 | | +14 / +20 | | +13 / +17 | |
| | 753 | ↙ 4 | 749 | ↙ 4 | 749 | ↓ 5 | 752 | ↙ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.50
Захад 20.44
Даўжыня дня 14.54

Усход 6.44
Захад 20.43
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +13 / +22 | 748 | ↘ 4 |
| Гродна | +14 / +27 | 747 | ← 3 |
| Мінск | +15 / +25 | 740 | ↓ 3 |
| Магілёў | +13 / +22 | 746 | ↓ 4 |
| Брэст | +17 / +31 | 744 | ← 4 |
| Гомель | +16 / +27 | 755 | ↙ 2 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +2.8 °С у 1964 годзе
Максімальная тэмпература +34,7 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14 мм у 2012 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Самая прыгожая нявеста ў інвалідным вазку. Чароўную гісторыю кахання Веранікі і Сяргея Якушыкаў з вёскі Дубрава Маладзечанскага раёна чытайце ў наступным нумары "РГ".

Реставрация ванн
Самый быстрый способ реставрации ванн по лучшей технологии
Ваша ванна остаётся белой 15 лет
(8-044) 792-63-33 ИП Петровская Р.Р.
(8-033) 392-14-29 УНП 591807751

Профессиональная РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН
Стаж – 15 лет
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18
ИП Кочкин А. А. УНП 190793011

Качество лучше, чем цена
- Рамы раздвижные
- Окна из ПВХ
Гарантия 5 лет. Собств. пр-во, доставка, монтаж
- Отливы, парапеты из оцинкованной стали
Быстро, качественно
Молодечно, Городокская, 102–Ж
(8-0176) 58-04-99, (8-029) 140-69-13, (8-029) 85-85-125
ООО «Мир оконных систем и технологий» УНП 691888098

✓ Лазерная резка, гибка ЧПУ, рубка, вальцовка, сварка
✓ Токарные, фрезеровочные работы
✓ Термическая обработка
✓ Балансировка изделий до 1 т
Тел. (8 0176) 77-11-70 www.t-o.by ООО «Точка опоры» УНП 690387150

ОТОПЛЕНИЕ - ВОДОСНАБЖЕНИЕ
- КОТЛЫ ИЗ ИТАЛИИ
- РАДИАТОРЫ
- ВОДОНАГРЕВАТЕЛИ
- ЭЛЕКТРООБОГРЕВАТЕЛИ
- ТРУБЫ, ФИТИНГИ, КРАНЫ
- БАКИ РАСШИРИТЕЛЬНЫЕ
- СЧЕТЧИКИ ГАЗА и ВОДЫ
Рассрочка 0%
Фирменный магазин 8 029 1356221
IMMERGAS Рядом с магазином "Свитанок"
Молодечно, ул. В.Гастинец, 75
Частное предприятие "Теплое Место". УНП 191283857

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНА




Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ.

На свяце горада ў Валожыне дзеці з задавальненнем каталіся на конях.

Будаўнічыя матэрыялы
Опт. Розніца.
Пад заказ з дастаўкай.
Спецумовы для аддзелачнікаў
www.cwik.by
(8-029) 175-49-46
(8-029) 849-49-46
(8-0176) 74-57-71
Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102-Ж
ТАА «Свет аконных сістэм і тэхналогій». УНП 691888098

САЙДИНГ наружный
Металлочерепица
ОНДУЛИН
Блок-хаус
ВОДОСТОЧНЫЕ СИСТЕМЫ
Замер, монтаж, консультация
Возможна доставка
Форма оплаты любая
Тел. 8-029-6249371,
ООО "УютТоргСтрой" УНП 691514328

МЕБЕЛЬСТАР - "НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ"
МЭБЛЯ ДЛЯ ДОМА І ОФІСА:
КУХНІ і ШАФЫ-КУПЭ любой складанасці.
Летнія зніжкі. Растэрміноўка плацяжу без %%
Тэл: 01771-55430; 56382; / 0176-502136; / V= 0296701534; / МТС= 0298673597
mbstar@mail.ru / www.belmebelstar.ru / ООО "Мебельстар" УНП 690249732

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як дзецям ратавацца ад уласных бацькоў?



**Кацярына Грыб, у дэкрэтным адпачынку:**
– Гэта пытанне трэба задаць сацыяльным службам, ім трэба думаць пра гэта. А што датычыцца майго меркавання – ніяк. Наша заканадаўства пабудаванае такім чынам, што дзяцей быццам абараняюць, але на самой справе... За зачыненымі дзвярыма бацькам закон не пісаны.



**Анастасія Шакун, медсястра:**
– Аддаваць перыядычна дзяцей на выхаванне бабулям і дзядулям.



**Антон Ганчарык, інжынер:**
– Можна параіць дзіцяці расказаць пра свае праблемы аднакласнікам, сябрам, сваякам, настаўнікам, бабулям. А калі дзіця ўжо не зусім дзіця – выйсце адно: жыць асобна.



**Ксенія Бацьё, гаспадыня:**
– Калі ўжо зусім у сям'і бацькі ідыёты, значыць, трэба праваахоўным органам і органам апекі займацца выхаваннем саміх бацькоў. Таму што ў сям'і дзіцяці ўсё роўна лепш, чым у дзіцячым доме.




**Яўген Сухаверх, аўтамабільны журналіст:**
– Як ратавацца дзіцяці? Ніяк! Збягаць з дому – не выйсце. А суседзям і проста навакольным людзям трэба быць больш уважлівымі, каб у выпадку чаго адразу паведаміць пра такую сям'ю куды трэба.



**Таццяна Сак, школьніца:**
– Мне здаецца, што толькі звяртацца да дарослых, напрыклад, да псіхолага ў школе. Сам ты наўрад ці што зможаш зрабіць.



**Таццяна Мельнікава, настаўніца:**
– У мяне ёсць яркі прыклад у суседзяў: дзяўчынцы тры гадкі, яе маме – 26. Дзеці гулялі ў пясочніцы. Дзяўчынка шустрая, актыўная. Бегла і ўпала, дык маці, замест таго, каб падняць і атрэсці дачку, падбегла ледзь не з мацюкамі і прынялася тварам яе тыкаць у зямлю. Давялося ратаваць дзяўчынку, несці да вады і там пальцамі даставаць пясок з рота. З таго дня я назіраю за імі, пытаюся ціхенька ў маленькай, ці не крыўдзіць хто.

Падрыхтавала Наталля Тур.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 33 (1059) 14.08.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1060. Падпісана ў друк у 9.00 13.08.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.